ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ
КНІГА НОША
№ 40
кастрычнік, 2016
ЗАСНАВАЛЬНІКІ: ГА"САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ", МГА"ЗБС"БАЦЬКАЎШЧЫНА"

■ АЎТОГРАФ

## Валянціна АКСАК:

# «...Я ўся такая ж калючая, як тая палесцінская дзічка»

**– Шаноўная Валянціна Іванаўна, у выдавецтве «Кнігазбор» у серыі «Бібліятэчка часопіса «Дзеяслоў» нядаўна выйшла Вашая новая кніга «Дзікая сліва». Адкуль у кнігі такая назва?**

– Перш, чым нешта вытлумачваць пра назву, хачу яшчэ раз схіліцца ў падзячным кніксане перад выдаўцамі. Яны зрабілі «Дзікай сліве» шчаслівы чытацкі лёс і трошкі прыемных момантаў аўтарцы, ад якіх яна стала мо крыху менш «дзікай». Бо, калі верыць мысляру Валянціну Акудовічу, (а яму не верыць у мяне няма ніякіх прычынаў), які сказаў на прэзентацыі кнігі, што яе назва дакладна характарызуе аўтарку, то я ўся такая ж калючая, як тая палесцінская дзічка. А менавіта гэты куст з доўгімі вострымі шыпамі і ёсць тымі цернямі, з галінак якіх угневаныя суграмадзяне сплялі апошні вянок вальнадумцу Хрысту. Гэткая расліна-крывапіўца, нібы адмыслова створаная прыродай для катавання непаслухмяных. Калючкі з таго дзікаслівавага вянка Хрыста, якога каты здзекліва назвалі царом юдэйскім, сталі святыняй, і часцінкамі яе потым караноўвалі валадароў Вялікай Рымскай імперыі, у тым ліку самага знакамітага з іх Карла IV. Гэтыя звесткі мяне моцна ўразілі і склаўся такі верш.




**Дзікая сліва**

*Калючкай з цярноўніку,*
*у які быў убраны*
*Цар Юдэйскі,*
*адарылі Карла IV,*
*карануючы на валадара*
*Вялікай Рымскай імперыі.*
*Пэўна, таму*
*так балюча джаляць мяне*
*смаліцкія спадкаемцы*
*палестынскае дзікае слівы,*
*якіх спаміж ружаў*
*выдзіраю няшчадна,*
*не прызнаючы*
*іхняе святасці.*

А калі складала рукапіс кнігі, то адчула, што іншай назвы для выяўлення зместу яе тэкстаў у мяне ўжо проста быць не можа.

**– Каго Вы лічыце сваімі настаўнікамі ў літаратуры? Творчасць якіх пісьменнікаў найбольш паўплывала на станаўленне Вас як творцы?**

– Шмат каго і шмат якіх. І ўсе яны – жанчыны.

ПераканаThe – без мае школьнае настаўніцы Ніны Іванаўны Курачыцкай мяне сённяшняе не было б. Карэнная расейка з Камы, прыходзячы ў халодны клас нашае старой школы, часам казала нам, старшакласнікам: «Дома вывучыце тэму такую і такую, а цяпер слухайце».

*(Працяг на стар. 7)*

### Даведка «Кніганошы»:

**Валянціна Аксак (Арлова) – паэтка. Аўтар кніг «Цвінтар» (1992), «Капліца» (1994), «Антычны дождж» (1999), «Віно з Каліфорніі» (2003), «Ружоўніца» (2008), «Дзікая сліва» (2015). Нарадзілася ў 1953 годзе ў вёсцы Смалічы на Нясвіжчыне. Жыве ў Мінску.**

## ■ МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА




**Скобла Міхась. Саркафагі страху: прознае. – Мінск: Кнігазбор, 2016. – 392 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 84).**

Новая кніга Міхася Скоблы – сплаў асабістых успамінаў і ўдумлівых развагаў на літаратурныя і гістарычныя тэмы. «Прознае» – гэта і палемічнае эсэ, і блогдаследаванне, і водгук на цікавае выданне. «Гуслям, княжа, не пішуць законаў» – гэты радок Янкі Купалы мог бы стаць эпіграфам да большасці тэкстаў, чые героі словам і чынам разбуралі здаўна прысутныя ў нашай культурнай прасторы «саркафагі страху».




**Ваганаў Сяргей. Мосцік над вечнасцю: нарысы і эсэ. – Смаленск: Інбелкульт, 2016. – 272 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 85).**

Кнігу вядомага журналіста Сяргея Ваганава склалі нарысы і эсэ, што друкаваліся пад рубрыкай «Камертон» з 2008 па 2011 год у газеце «Народная Воля», а з 2011 па 2015 год у газеце «Наша Ніва», з якой супрацоўнічае па сёння. «Камертоны» заўсёды з цікавасцю чыталіся і выклікалі бурлівыя абмеркаванні ў каментарах. Сяргей Ваганаў працаваў у «Чырвонай змене», «Сельской газете», газеце «Знамя юности». З 1976 па 2008 год быў уласным карэспандэнтам газеты «Труд» па БССР, галоўным рэдактарам газеты «Труд» в Беларуси». Адзін са стваральнікаў Беларускай асацыяцыі журналістаў.




**Гіль Мікола. Неадступнасць: зімовыя васьмірадкоўі. – Мінск: Кнігазбор, 2016. – 120 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 86).**

У новую кнігу вядомага беларускага празаіка Міколы Гіля ўвайшлі... вершы, напісаныя ў апошнія гады і ў далёкія – 70-я мінулага стагоддзя. Лірычныя і філасофскія радкі – развагі пра сучаснасць і сучаснікаў з вышыні пражытых гадоў.




**Шульман Давід. З вялікай літары «Б»: кніга прозы. – Мінск Кнігазбор, 2015. – 212 с.**

Давід Шульман ужо чвэрць стагоддзя жыве ў Ізраілі, але не парывае духоўнай сувязі з зямлёю сваіх бацькоў і дзядоў. Творы з новай кнігі Д. Шульмана аб'ядноўвае шчаслівае ўменне аўтара і ягоных герояў радавацца самым розным праявам таго найвялікшага дзіва, якое называецца жыццём.




**Слонімскія настроі: вершы. Укл., прадм. і зн. С. Чыгрына. – Мінск: Кнігазбор, 2016. – 160 с.**

Зборнік склалі вершы беларускіх паэтаў, прысвечаныя старажытнаму гораду Слоніму і яго ваколіцам, а таксама знакамітым людзям слонімскай зямлі. У кнізе змешчаныя вершы Дануты Бічэль, Ларысы Геніюш, Леаніда Дранько-Майсюка, Анатоля Іверса, Алега Лойкі, Сяргея Новік-Пеюна, Алы Петрушкевіч, Міхася Скоблы, Андрэя Хадановіча, Івана Чыгрына і іншых.




**Шчур Макс. Завяршыць гештальт (падарожны псэўдараман з фатаздымкамі). – Тэрнопаль, Украіна: Выдавецтва «Крок», 2015. – 310 с.**

«Завяршыць гештальт» – дзённік падарожжа «чалавека з фотаапаратам» у прасторы і часе, з Чэхіі ва ўлюбёную краіну ягонай маладосці Галандыю. Па дарозе герой-апавядальнік сустракае людзей з розных краінаў Еўропы і свету, абмяркоўвае з імі надзённыя пытанні эстэтыкі, эротыкі і геапалітыкі і напружана чакае, калі з ім нарэшце здарыцца нешта, што апраўдае ягонае рашэнне выехаць за мяжу – як цяпер, так і дваццаць гадоў таму з Беларусі. Ён перакананы, што галоўная сустрэча ягонага жыцця чакае яго ў Амстэрдаме. Кніга – пераможца прэміі імя Ежы Гедройца 2016 года.




**Бахарэвіч Альгерд. Белая муха, забойца мужчын: раман. – Мінск: Галіяфы, 2015. – 240 с.**

У Краіне Замкаў пярэпалах. Славуты помнік архітэктуры – у руках таямнічай жаночай банды. Чым скончыцца супрацьстаянне грамадства і «дзевак без цара ў галаве»? Новая кніга Альгерда Бахарэвіча – раман пра «людзей і жанчын», каханне і помсту, прыгнёт і змаганне. Гісторыя нязгодных нягодніц, якія замахнуліся на самае святое...




**Галавіна Ганна. Яблык Зямля: вершы. Мастак Галіна Сенчанка. – Мінск: Галіяфы, 2016. – 92 с.**

Яблык Зямля. Першы зборнік Ганны Галавіной, у які ўвашлі паэма «Атлантыда» і вершы розных гадоў. Асноўнымі тэмамі твораў з'яўляюцца каханне ў яго шматгранных праяўленнях, а таксама ўсведамленне чалавекам свайго месца на Зямлі ў нацыянальным і глабальным кантэксце. Вершы таксама дапамагалі аўтару ў сціслай форме адлюстраваць і закансерваваць пачуцці, зразумелыя для многіх, але такія нечаканыя ў кожным асобным выпадку.




**Скарынкіна Таня. Шмат Чэслава Мілаша, крыху Элвіса Прэслі: эсэ. Напісаныя для «Будзьмы» ў 2014–2015 гг. – Вільня: Logvino literatūros namai, 2015. – 188 с.**

Зборнік эсэ паэткі Тані Скарынкінай расказвае пра асаблівасці дзіўнага паўсядзённага жыцця ў райцэнтры. Жыцця, поўнага супярэчнасцяў і супадзенняў. Гумару і грубасці. Павагі і падазронасці. Сяброўства і смерці. Шчырасці і фальшу. Местачковай моды і мовы.




**Жадан Сяргей. Варашылаўград: раман. Пераклад з украінскай Віталя Латыша. – Вільня: Logvino Literatūros namai, 2016. – 352 с.**

Гера, малады чалавек з бязладным жыццём, прыязджае на малую радзіму, у мястэчка на Луганшчыне (Луганск называўся Варашылаўградам за савецкім часам, за часам юнацтва галоўнага героя), каб ратаваць братаў бізнес, і адразу ж атрымлівае цэлую купу праблемаў з крыміналітэтам, чыноўнікамі і былымі сябрамі. Сяргей Жадан выдатна адлюстраваў стан не толькі ўкраінскай, але ўсёй постсавецкай прасторы – атмасферу разгубленасці і няўтульнасці, поўнага неразумення таго, што будзе заўтра, але роспачнага прыняцця таго, што ёсць тут і цяпер. Раман прасякнуты духам сапраўднага сяброўства, лірычнымі ўспамінамі, дзіўнымі перапляценнямі мінулага і рэчаіснасці.




**Керэт Этгар. Сем добрых гадоў. Пераклад з іўрыту Сяргея Шупы. – Вільня: Logvino Literatūros namai, 2016. – 232 с.**

У сваёй першай непразаічнай кнізе папулярны ізраільскі аўтар Этгар Керэт піша пра важныя для яго рэчы, што адбыліся за сем гадоў – ад нараджэння сына да смерці бацькі. У гэтых смешнасумных гісторыях гаворыцца не толькі пра сям'ю і працу, перад чытачом паўстае панарама супярэчлівай сучаснасці – у Ізраілі і ў свеце.




**Крывашэін Аляксей. Ліквідацыя: дакументальная аповесць. – Мінск: А. А. Калоша, 2016. – 198 с.**

Аляксей Крывашэін праслужыў у Чарнобыльскай зоне два тэрміны. Палкоўнік ваеннай контрразведкі КДБ, ён без ваганняў выконваў свой абавязак. Маўчаць пра тое, што адбывалася тады «за кулісамі» ліквідацыі наступстваў Чарнобыльскай катастрофы, цяпер ужо немагчыма. Як беларусы насамрэч сталі «чарнобыльцамі» – пра гэта дэталёва і падрабязна напісана ва ўспамінах Аляксея Крывашэіна. Кніга нясе праўду пра Чарнобыльскую трагедыю, якую трэба ведаць і нельга забываць.




**Льюіс Клайв Стэйплз. Хронікі Нарніі. Пляменнік чараўніка. Пераклад з англійскай Надзеі Кім. Мастак Паўліна Бэйнс. – Мінск: Пазітыў-цэнтр, 2016. – 224 с.**

«Хронікі Нарніі» – дзіцячы фэнтэзі-цыкл Клайва Стэйплза Льюіса, у які ўваходзіць 7 кніг. У іх распавядаецца пра прыгоды дзяцей у Нарніі – чароўнай краіне, дзе ёсць магія і ідзе вечнае змаганне дабра і зла. «Хронікі» – адна з найбольш паспяховых кніжных серыяў у гісторыі. Кнігі пра Нарнію перакладзены на 41 мову. Нарэшце дайшла чарга і да беларускай. У першай кнізе цыкла – «Пляменнік чараўніка» тлумачыцца, як з'явілася Нарнія, адкуль прыйшла Джадзіс (Белая Вядзьмарка) і чаму менавіта Гардэроб з'яўляецца варотамі ў чарадзейны свет.




**Рублеўскі Сяргей. Мамін шэпт пад абразамі: эсэ, мініяцюры, пісьмы. – Віцебск: Віцебская абласная друкарня, 2016. – 240 с.**

Аўтар вызначыў сваё новае выданне як кнігу-паклон. Амаль кожны твор з сабраных пад яе вокладкай асветлены імем маці, натхняльным замілаваннем яе духоўнай пастаццю, напісаны з удзячнасцю за дабрыню і ласку, за незабыўныя ўрокі жыцця. І асабліва – за адкрыццё спеўнага вытоку роднай мовы. У адным з раздзелаў кнігі – вытрымкі з лістоў маці, напісаных на сумежжы мінулага і цяперашняга стагоддзяў. Гэта своеасаблівы дзённік пары ўзрушальных сацыяльных пераменаў, занатаваны простай вясковай жанчынай. Пісьменнік пераканаы, што ўсе маці ў сваіх светлых, азораных любоўю памкненнях падобныя адна на адну, і кожная – трошкі на Божую Маці. Сваімі малітвамі аб дзетках яны зацята імкнуцца надтачыць Яе атуляльны ад прыкрасцяў свету пакрыў.




**Бродскі Іосіф. Туга і спакой: раньнія вершы. Пераклады Вадзіма Болбаса. – Гомель, 2015. – 100 с.**

У кнізе прадстаўлены самы вялікі збор перакладаў на беларускую мову ранняй паэзіі Іосіфа Бродскага, у тым ліку і дзевяць вершаў, аўтарам не датаваных, якія раней не друкаваліся. Перакладчык выбіраў тыя творы, што больш адпавядаюць яго густу.




**Пракаповіч Ігар, Пракаповіч Ганна. Беларускія лімерыкі ад Кірыбаці да Амерыкі. – Мінск: Каўчэг, 2016. – 208 с.**

Гэту кніжачку склалі несур'ёзныя, часам абсурдныя, вершаваныя пяцірадкоўі геаграфічнага ўхілу, напісаныя Ігарам і намаляваныя Ганнай. Выданне рэкамендуецца псіхічна адэкватным людзям з пазітыўным успрыманнем вакольнай рэчаіснасці.

# ■ МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА




**Суліма-Савіч-Заблоцкі Вайніслаў Казімір. Полацкая шляхта. – Мінск: Папуры. Пры ўдзеле Выдавец Уладзімір Сіўчыкаў, 2016. – 320 с. – (Серыя «Мая беларуская кніга»).**

Дзе знаходзіцца Белая Русь? Гэта вядома ўсяму свету, даводзіць ужо ў першым сказе сваёй аповесці Вайніслаў Казімір Суліма-Савіч-Заблоцкі (1850 – пасля 1893). Назва твора – такая ж «шматпавярховая», як і імя аўтара: «Апавяданне І-е, Арлалёты і Падканвойны, або Полацкая шляхта (Жаніцьба Ямці Пана Шатана Старшага)». Як у фільме-фэнтэзі, паўстае тут старажытны паганскі алтар – «стол Гарыславы», гарыць вогнішча ў ноч на Івана Купалу, плешча цёмнымі водамі Жэраўскае возера, выходзіць з лесу Вужыны кароль. Сярод гэтых дзівосаў і цудаў жывуць і паміраюць, кахаюць і ненавідзяць, шукаюць сэнс жыцця ўладальнік Арлапольскага замка Януш Павел Арлалёт, стары Мечнік са Шчароты, камісар Жэраўскага маёнтка пан Бурба...




**Юзаф Ігнацы Крашэўскі. Кароль у Нясвіжы. 1784. – Мінск: Папуры. Пры ўдзеле Выдавец Уладзімір Сіўчыкаў, 2016. – 194 с. – (Серыя «Мая беларуская кніга»).**

У адным з самых беларусацэнтрычных твораў – гістарычнай аповесці «Кароль у Нясвіжы. 1784» – расказваецца пра паездку на сейм у Гародню апошняга вялікага князя літоўскага і караля польскага, нашага земляка Станіслава Аўгуста Панятоўскага. Падчас падарожжа ён спыняўся ў Нясвіжскім палацы наймагутнейшага магната Рэчы Паспалітай Караля Станіслава Радзівіла, знакамітага Пане Каханку, які наладзіў Панятоўскаму неверагодна ўрачысты і фантасмагарычны прыём.




**Гілевіч Ніл. Родныя дзеці. Сказ пра Лысую гару. – Мінск: Папуры. Пры ўдзеле Выдавец Уладзімір Сіўчыкаў, 2016. – 272 с. – (Серыя «Мая беларуская кніга»).**

Цікавым і годным працягам традыцыяў колісь ананімных паэмаў XIX стагоддзя «Энеіда навыварат» і «Тарас на Парнасе» стаў бурлескна-сатырычны «Сказ пра Лысую гару». Тры дзесяцігоддзі твор распаўсюджваўся падпольна, а потым і друкаваўся шматтысячнымі тыражамі пад псеўданімам Францішак Вядзьмак-Лысагорскі. У 2003 годзе ў аўтарстве фенаменальна папулярнай і камерцыйна паспяховай паэмы прызнаўся Народны паэт Беларусі, трыбун і публіцыст, песеннік і фалькларыст, грамадскі дзеяч і навуковец Ніл Гілевіч (1931–2016). Яго пяру належыць і знакамітая меладрама «Родныя дзеці» – першы беларускамоўны раман у вершах.

**Тарасаў Кастусь. Крывавы патоп. – Мінск: Папуры. Пры ўдзеле Выдавец Уладзімір Сіўчыкаў, 2016. – 304 с. – (Серыя «Мая беларуская кніга»).**




Кастусь Тарасаў неверагодна глыбока ведаў і адчуваў гісторыю – як яе матэрыяльны свет, так і патаемныя рухі чалавечай душы. Яго лёгка ўявіць і ў баявым шыхце рыцараў Вялікага Княства Літоўскага на полі Аршанскай бітвы, і ў велікодным віленскім натоўпе часоў Жыгімонта Аўгуста і Барбары Радзівіл. Аповесць «На вайне» прысвечаная падзеям крывавага патопу сярэдзіны XVII стагоддзя, калі Беларусь страціла больш за палову свайго насельніцтва. Літаратурна-гістарычныя эсэ Кастуся Тарасава, якія таксама ўвайшлі ў кнігу, – заўсёды нечаканыя і глыбокія.




**Караткевіч Уладзімір. Хрыстос прызямліўся ў Гародні. – Мінск: Папуры. Пры ўдзеле Выдавец Уладзімір Сіўчыкаў, 2016. – 688 с. – (Серыя «Мая беларуская кніга»).**

Адзін толькі радок у летапісе, які апавядае пра з'яўленне ілжэхрыста ў Гародні – і з яго, бы з насення, вырастае гісторыя Юрася Братчыка, спярша пабітага жыццём бадзяжнага актора і махляра, а потым – народнага заступніка, змагара, філосафа. Уладзімір Караткевіч, які пісаў раман у эпоху ваяўнічага атэізму, здолеў расквеціць свой твор цытатамі з Евангелля і апісаннямі цудаў, якія творыць гарадзенскі Хрыстос.




**Быкаў Васіль. Мёртвым не баліць. – Мінск: Папуры. Пры ўдзеле Выдавец Уладзімір Сіўчыкаў, 2016. – 368 с. – (Серыя «Мая беларуская кніга»).**

Лёгкапараненаму малодшаму лейтэнанту Леаніду Васілевічу даручаюць даставіць у штаб трох палонных немцаў. Пасля жорсткіх баёў, якія перажылі байцы пад Кірав598градам, заданне падаецца ім лёгкай прагулянкай. Каб жа ведаў быкаўскі герой, якім пеклам абернецца для яго гэты шлях, напрыканцы якога ён зразумее старажытнае прароцтва «Жывыя пазайздросцяць мёртвым»! Праз дваццаць гадоў Васілевіч пазнае ў выпадковым сустрэчным віноўніка сваіх пакутаў, якога даўно ненавідзіць за подласць і здраду. Яны апынуцца за адным столікам у мінскім рэстаране…




**Ажэшка Эліза. Хам. – Мінск: Папуры. Пры ўдзеле Выдавец Уладзімір Сіўчыкаў, 2016. – 256 с. – (Серыя «Мая беларуская кніга»).**

Жыццёвы і творчы шлях Элізы Ажэшкі (1841–1910) непарыўна зніταваны найперш з Гродна і Гродзеншчынай. Яе знакамітая аповесць «Хам» прысвечаная жыццю беларускай вёскі пазамінулага стагоддзя і мае маральна-этычную скіраванасць. Селянін-рыбак Павел Кабыцкі паказаны вельмі глыбокай і цэльнай асобаю, а ягоныя стасункі з распуснай і фанабэрыстай Франкай – угрунтаванымі на біблійным запавеце дараваць свядомыя і несвядомыя правіны бліжніх.




**Мельнікаў Ігар. Заходнебеларуская Атлантыда 1921–1941 гг.: паміж Варшавай і Масквой. – Мінск: Галіяфы, 2016. – 346 + 54 с.: іл.**

Другая кніга, як і першая, прысвечана малавядомым старонкам гісторыі Беларусі ў міжваеннае дваццацігоддзе. Вялікая ўвага надаецца сюжэтам, звязаным як з гісторыяй заходнебеларускага рэгіёна, так і БССР. Акрамя гэтага, значнае месца ў выданні займае асвятленне некаторых белых плямаў у гісторыі Другой сусветнай вайны. Кніга праілюстравана ўнікальнымі архіўнымі здымкамі, большасць з якіх публікуецца ўпершыню.




**Гарадзенскі соцыум. Горад і яго жыхары: партрэт на фоне эпохі. X–XX стст.: зборнік навуковых артыкулаў. Пад рэд. А.Ф. Смаленчука. – Мінск: Зміцер Колас, 2016. – 366 с.**

Матэрыялы зборніка прысвечаныя сацыяльным аспектам гісторыі Гародні ды іншых гарадоў Беларусі, Польшчы, Літвы і Украіны. У цэнтры даследчай увагі стасункі паміж гараджанінам і горадам як сацыяльнай, культурнай і канфесійнай прасторай у перыяд ад Сярэднявечча да канца XX ст. Тэматыка спалучае даследаванні гарадскога соцыуму з лакальнай гісторыяй, якая асэнсоўваецца ў кантэксце мінулага Беларусі і Цэнтральна-Усходняй Еўропы. Кніга адрасаваная ўсім, каго цікавіць гістарычная ўрбаністыка і сацыяльная гісторыя.




**Мікалай Арэх, Ігар Пракаповіч. Стары Двор і ваколіцы. – Мінск: Каўчэг, 2016. – 128 с.**

У новай кнізе вядомых краязнаўцаў Пастаўшчыны Мікалая Арэха і Ігара Пракаповіча распавядаецца пра прыродныя асаблівасці, гістарычныя падзеі, развіццё культуры і адукацыі Старога Двара і ваколіцаў – мясцовасці, што ляжыць на паўночным захадзе Беларусі ў Пастаўскім раёне. У выданні падаецца шмат цікавых мясцовых гісторыяў і легендаў.




**Сылка Евгений. Освобождение Минска. 1-й, 2-й, 3-й Белорусские фронты в Минской наступательной операции. Минский «котёл» в июле 1944 года. – Минск: Ковчег, 2016. – 144 с.: компакт-диск.**

Мінская наступальная аперацыя займае цэнтральнае месца ў Беларускай стратэгічнай наступальнай аперацыі («Баграціён»). У Мінскам «катле» былі знішчаны ўсе злучэнні 4-й арміі вермахта, якія ваявалі з 1941 года і дайшлі да Масквы. Дзіўным чынам, гэтая тэма выяўляецца абыдзенай у асвятленні і ваенных даследаваннях. У дадзенай кнізе, па даступных матэрыялах зроблена спроба рэканструяваць падзеі пад Мінскам на пачатку ліпеня 1944 года. Баявое становішча разгледжана па кожным дні і адлюстравана ў падрабязных картах, што дазволіць чытачу самому атрымаць уяўленне пра ўсю складанасць баявой працы камандзіраў і штабоў. Поспехі на полі бою былі заслужаныя празмернай напругай сілаў усіх звёнаў ад салдата і да маршала.

Дадатковыя матэрыялы і дакументы на кампакт-дыску дазволяць інакш успрыняць ваенную літаратуру і павялічыць пазнавальную цікавасць. Ваенная гісторыя, выдатны прыклад досведу, за які заплачаны самы дарагі кошт – жыцці герояў. Гэта нашы людзі, наша зямля і наш досвед. Якое вандраванне можа быць больш пазнавальным і займальным? Ніякіх фантазіяў. Толькі пошук таго, як гэта было.




**Арлоў Уладзімір. Яўген Глебаў: Кампазітар, вялікі ва ўсіх жанрах. – Мінск: «Харвест», 2016. – 64 с.: мал. – (Серыя «100 выдатных дзеячаў беларускай культуры»).**

Яўген Глебаў (1929–2000) – сусветна вядомы беларускі кампазітар. Ён аўтар шматлікіх сімфанічных твораў («Беларуская партызанская», «Палеская сюіта» і інш.), балетаў і операў («Мара», «Альпійская балада» і інш.), шэрагу песняў, а таксама музыкі да 36 фільмаў. Яго вучнямі з'яўляюцца больш за 40 вядомых беларускіх выканаўцаў.




**Турава Алена. Віктар Тураў: Майстар беларускага стылю. – Мінск: Харвест, 2016. – 64 с.: мал. – (Серыя «100 выдатных дзеячаў беларускай культуры»).**

Віктар Тураў (1936–1996) – выдатны беларускі кінарэжысёр. Галоўная тэма яго творчасці – зямля Беларусі і яе людзі, асабліва тэма пакалення, апаленага вайной. Таксама ён быў кіраўніком Саюза кінематаграфістаў БССР і мастацкім кіраўніком майстэрні ігравога кіно ў Акадэміі мастацтваў.




**Марціновіч Алесь. Канстанцін і Яўстах Тышкевічы: Заснавальнікі беларускай археалогіі і музеязнаўства. – Мінск: «Харвест», 2016. – 64 с.: мал. – (Серыя «100 выдатных дзеячаў беларускай культуры»).**

Браты Канстанцін (1806–1868) і Яўстах (1814–1873) Тышкевічы – пачынальнікі беларускай навуковай археалогіі, краязнаўства, фальклярыстыкі, музейнай справы ў сярэдзіне XIX ст. Здзейсненае імі – вельмі важкі ўнёсак у нацыянальнае Адраджэнне, якое ў той час знаходзілася ў зародкавым стане. Менавіта такія тытаны духу, як браты Тышкевічы, паскаралі гэты працэс, адкрываючы Беларусь як для беларусаў, так і для ўсяго свету.




**Марціновіч Алесь. Браніслаў Эпімах-Шыпіла: Патрыярх беларускага Адраджэння. – Мінск: «Харвест», 2016, – 64 с.: мал. – (Серыя «100 выдатных дзеячаў беларускай культуры»).**

Браніслаў Эпімах-Шыпіла (1859–1934) – выдатны дзеяч беларускага нацыянальнага адраджэння канца XIX і першай чвэрці XX стагоддзя. Ён фальклорыст, мовазнавец і этнограф, выдавец, выхавацель моладзі, выдатны арганізатар, паліглот-літаратуразнавец, бібліяфіл, патрыёт Беларусі. Ініцыятар стварэння і адзін з кіраўнікоў выдавецкай суполкі «Загляне сонца і ў наша аконца!», рэдактар першага паэтычнага зборніка Янкі Купалы. Фактычны кіраўнік навукова-літаратурнага гуртка беларускіх студэнтаў Пецярбурга.




**Деды: дайджест публикаций о беларуской истории. Составление, научное редактирование А. Е. Тараса. – Минск: Харвест, 2016. – 316 с.**

Прапанаваны выпуск альманаха ўтрымлівае 24 матэрыялы, тэматычна згрупаваныя ў 4 часткі. У першай з іх (Ад плямёнаў да нацыі) – 7 матэрыялаў, у другой (Старонкі нашай гісторыі) – таксама 7, у трэцяй (Вайна...) – 6, у чацвёртай (Са струменя бягучых падзеяў) – 4. Тэксты суправаджаюць 112 ілюстрацыяў.




**Западнорусизм – антибелорусская идеология: Материалы научно-практической конференции (Минск, 26 сентября 2015 г.). Под редакцией А. Е. Тараса. – Рига: Институт белорусской истории и культуры. – 2015. – 224 с.**

Зборнік уключае тры даклады, прадстаўленыя на канферэнцыю, а таксама дзесяць артыкулаў апублікаваных у розныя гады па праблеме, што абмяркоўвалася. У сваёй сукупнасці гэтыя матэрыялы даюць яснае ўяўленне пра «стары» і «новы» заходнерусізм – ідэалогію, якая апраўдвае неакаланіяльную імперскую палітыку сучаснай Расіі і адначасова адмаўляе права народаў былых калоніяў на самастойнае дзяржаўнае і культурнае развіццё.

**Запісы Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва. №38. – Навукова-папулярны альманах аб беларускай эміграцыі. – Belarusan Institute of Arts and Sciences: New York–Miensk, 2016. – 612 с.**

Новы нумар альманаха «Запісы БІНіМ» прысвечаны тэме «Памяць». Яна надзвычай важная для эміграцыйнай культуры. Суродзічы на чужыне аб'ядноўваюцца на падста-




ве агульнай памяці пра радзіму, ім важна пакінуць памяць па сабе для нашчадкаў як на Захадзе, гэтак і ў метраполіі. Памяць увасабляецца ў ідэях, тэкстах, вобразах, помніках. Можна сцвярджаць, што тэксты не толькі гэтага выпуску альманаху аб'яднаныя ідэяй захавання памяці пра беларусаў на чужыне.

Гэтым разам акрамя традыцыйных для альманаха тэкстаў чытачам прапанаваныя два кампакт-дыскі. Адзін з іх утрымлівае файл з бібліяграфіяй рэлігійнага часопіса «Божым Шляхам», што выдавалі грэка-каталікі ў Парыжы і Лондане з 1947 па 1980 гг. (укладальнік – Алесь Аўдзяюк). Другі – укладзенае галоўнай рэдактаркай «Запісаў» Наталляй Гардзіенкай мультымедыйнае выданне «Віртуальны некропаль: Беларускія могілкі ў свеце».




**Шмигельските-Стукене Рамуне. Михал Клеофас Огинский: политик, дипломат, министр. Научная монография. – Минск: Научный мир, 2015. – 192, [30] с.: ил.**

Манаграфія доктара гуманітарных навук, старшага навуковага супрацоўніка Інстытута гісторыі Літвы, дацэнта Літоўскага адукалагічнага ўніверсітэта Рамуне Шмігельскітэ-Стукене адкрывае палітычную і дыпламатычную дзейнасць М.К. Агінскага ў перыяд 1786–1794 гг. Даследаванне заснавана на шматлікіх архіўных крыніцах, што раней не прыводзіліся ў публікацыях, прысвечаных жыццю гэтага выбітнага грамадскага і дзяржаўнага дзеяча.




**Лыч Леанід. Усенародны рух за наданне беларускай мове статусу адзінай дзяржаўнай: (да 25-годдзя Закона «Аб мовах у Беларускай ССР» – 26 студзеня 1990). – Мінск, 2015. – 80 с.**

Распавядаецца, як пад пазітыўным уплывам гарбачоўскай перабудовы ў Беларусі распачаўся рух за нацыянальна-культурнае Адраджэнне, галоўным складнікам якога з'яўлялася ўсенароднае змаганне за наданне беларускай мове статусу адзінай дзяржаўнай у рэспубліцы. Ініцыятыва ў гэтым належала добраахвотным грамадскім аб'яднанням, якіх у канцы 1980-х гадоў падтрымалі партыйныя і савецкія ўлады БССР. Прыняты з іх удзелам Закон «Аб мовах у Беларускай ССР» цалкам адпавядаў міжнароднай практыцы рэгулявання моўнага працэсу і пры яго ажыццяўленні быў бы пакладзены канец русіфікацыі беларусаў, забяспечаны ім усе ўмовы для дынамічнага самабытнага этнакультурнага развіцця. Кніга адрасуецца тым, хто вядзе сёння і хто будзе заўтра весці змаганне за наданне беларускай мове рэальнага статусу дзяржаўнай у краіне.

Кнігі можна замовіць ці набыць па наступных адрасах:

**«Акадэмічная кніга»,** г. Мінск, пр-т Незалежнасці, 72; e-mail: akademknigaminsk@mail.ru, тэл.: +375 17 292 00 52, 292 46 52, 292 50 43, **«Кніжны салон»** (вул. Калініна, 5), **«Кнігарня пісьменніка»** (вул. Казлова, 2), **«Веды»** (вул. К. Маркса, 36), **«Светач»** (пр-т Пераможцаў, 11), **«Цэнтральны кніжны»** (пр-т Незалежнасці, 19), **«Кніжная Шафа»** (пр. Дзяржынскага, 9), **«Кнігі & кнiжачкі»** (пр-т Незалежнасці, 14), **Кніжная выстава-кірмаш «Мир книг»** (вул. Янкі Купалы, 27).

А таксама ў інтэрнэт-крамах: knihi.by, prastora.by, imbryk.by, kniharnia.by, halijafy.by і e-kniga.by.

# Гедройц-2016: «Завяршыць гештальт» Макса Шчура

«Белая муха» Альгерда Бахарэвіча апынулася на другім месцы, а «Таўсціла і лешч» Андрэя Адамовіча – на трэцім.

Пераможцу ўзнагароду ўручыў амбасадар Польшчы ў Беларусі Конрад Паўлік. Ён падкрэсліў, што прэмія становіча ўплывае на беларускае літаратурнае асяроддзе. Перад тым як адкрыць канверт і абвясціць першае месца, ён падкрэсліў: «Усе лаўрэаты – пераможцы, трэба мець мужнасць, каб удзельнічаць у такім няпростым конкурсе».

За Макса Шчура ўзнагароду ў 5000 еўра атрымаў ягоны выдавец Андрэй Янушкевіч. Гісторыя аўтара і твора сама вартая кнігі: 38-гадовы пісьменнік з Берасця цяпер жыве ў Чэхіі, бо яшчэ ў канцы 90-х праз сваю п'есу «Смерць тырана» быў вымушаны пакінуць Беларусь. Спачатку раман выйшаў у электронным варыянце, а на паперы – ва Украіне. Кніга – своеасаблівы дарожны раман, што распавядае, як чалавек вандруе ў Нідэрланды.

Альгерд Бахарэвіч на цырымонію не прыехаў, але атрымаў стыпендыю ў Доме творчасці пісьменнікаў на шведскім востраве Готланд, дзе ў свой час бывалі Быкаў, Алексіевіч і іншыя беларускія літаратары. Адметна, што Бахарэвіч традыцыйна ўваходзіць у шорт-ліст прэміі і нават у тройку пераможцаў, але пакуль галоўнай узнагароды журы яму не прысуджала. «Папсовы глядач памятае, колькі часу Леанарда ды Капрыа ішоў да свайго Оскара. А вядомы рэжысёр Федэрыка Феліні так ніколі статуэткі і не атрымаў», – заўважыў старшыня ПЭН-цэнтра і заслужаны вядоўца прэміі Гедройца Андрэй Хадановіч. «Напэўна, Бахарэвіч і не прыйшоў сёння, бо гэта складана – мець столькі намінацый і не перамагчы, – адзначыў старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў Барыс Пятровіч, які і абвясціў другую кнігу года. – Журы штогод мяняецца, а Бахарэвіч кожны раз займае высокае месца. Ён ужо даказаў, што выдатны аўтар».



Трэцяе месца аб'явіў пісьменнік, гісторык і майстар інтрыгі Уладзімір Арлоў. Ён распакаваў канверт і перад тым як назваць трэцюю кнігу года, пэўны час распавядаў пра смакоты на святочным стале з часоў ягонага дзяцінства, дзе самым выбітным быў малочны суп з рыбы. Вядома, з ляшча. За «Таўсцілу і ляшча» Андрэй Адамовіч атрымаў вандроўку на два тыдні ў Берлінскі літаратурны калёквіум.

Сёлета на прэмію імя Ежы Гедройца былі намінаваныя 29 кніг. Барыс Пятровіч прызнаўся, што нават у лонг-лісце прэміі меў сваіх фаварытаў, вартых увагі чытачоў і крытыкаў. Па яго словах, сёлета быў вельмі моцны спіс прэтэндэнтаў на перамогу.

Прэмію імя Ежы Гедройца ўручаюць з 2012 года за найлепшую кнігу на беларускай мове. Раней яе атрымалі Павел Касцюкевіч за кнігу «Зборная РБ па негалоўных відах спорту» (2012), Уладзімір Някляеў за «Аўтамат з газіроўкай з сіропам і без» (2013), Ігар Бабкоў за кнігу «Хвілінка: Тры гісторыі» (2014) і Віктар Казько за кнігу «Час збіраць косці» (2015).

**Марыя Грыц.**

**Фота Зарыны Кандрацьевай, budzma.by**

■ АЎТОГРАФ

# «Я ўся такая ж калючая, як тая палесцінская дзічка»

*(Пачатак на стар. 1)*

І мы слухалі вершы Мандэльштама, Пастэрнака, Цвятаевай, Ахматавай. Відаць, за такія няўхвальныя тады літаратурныя густы і саслалі «за свет» уладальніцу чырвонага дыплома Ленінградскага ўніверсітэту. А нам, вучням Ланскай школы, што на Нясвіжчыне, страшэнна пашанцавала. Пад уплывам чутага, з чаго мне асабліва было блізкае Ахматавай, я й паспрабавала нешта сачыняць. І што дзіўна: настаўніца вучыла нас расейскай мове і літаратуры, а складала я свае першыя рыфмаванкі па-беларуску. І яна дабраславіла мой выбар.

Потым прыйшлі чатыры амерыканкі.

Першая лацінаамерыканская набелістка Габрыэла Містраль доўга блукала са мной па полацкіх ваколіцах, дзе я тады жыла. *«Ноч надышла, раса траву шукае; глядзі даўжэй, кажы ў ласкавым суме, а заўтра ўжо з ракою пойдзе тая, што ты сягоння цалаваў, красуня».* Мне ўяўлялася, што гэтыя радкі далёкай чылійкі не перакладзеныя Рыгорам Барадуліным, а напісаныя на беразе маёй Дзвіны.

Зачараваная Сільвіяй Плат, я толькі нядаўна ўведала ейную, такую ж, як і мая, любоў да самоты на дасвецці, калі ўжо не спяць хіба толькі птушкі на дрэвах за акном.

І Эн Сэкстан зблізілася са мной не толькі спробай зазірнуць за небакрай, але і прагаю хутка імчаць на аўто, у якім яна той небакрай і ўбачыла ўрэшце па ўласнай волі.

А яшчэ Эмілі Дзікінсан, за том якое я не паспела падзякаваць Янку Юхнаўцу. Ён, дазнаўшыся пра маё захапленне масачусецкай самотніцай, перадаў мне з-за акіяну гэты скарб. Вось ужо каторы год меруся нешта перастварыць з яго панаску, але марна. Спадар Янка, дарэчы, спрабаваў аспрэчыць крытычныя закіды «ЛіМа» на адрас хрысціянскіх матываў у маёй першай кніжцы «Цвінтар», але яго допіс не надрукавалі і ён потым прыслаў мне ліст з пераказам таго допісу.

Ну і тая, якая і расейка – па нараджэнні, і амерыканка – па краіне жыхарства, і беларуска – па мове душы і творчасці. Наталля Арсеннева – мой недасяжны бераг. Хоць некалі ў мяне і склаўся прысвечаны ён трыпціх. Вось першы фрагмент яго.

*Як Вам жывецца ў той Амерыцы?..*
*А ў нас паспела збажына,*
*Але пажаць ніхто не мерыцца,*
*А тых, хто сеяў, – тут няма.*
*Так і жывём, чаканнем поўныя,*
*Пра гаспадарскі марым серп,*
*Хоць песні жніўныя жалобныя,*
*Як і даўней, пяюць усе.*
*Засеяць Вам хапіла смеласці,*
*І жаць настала ўжо пара…*
*Ды да жытоў багатай спеласці*
*Спаўзае хмараю вараг.*

**– У Вас незвычайная сям'я – муж і сыны творцы. Распавядзіце, як Вы, нягледзячы на працу, сямейныя і жыццёвыя клопаты, знаходзіце час на стварэнне новых твораў?**

– Я адкажу Вам на гэта адным са сваіх даўніх вершаў, які называецца «Смешна».

*Мне сябра выпадковы распавёў,*
*дзе да яго*
*радкі прыходзяць:*
*на прываценнай лаўцы электрычкі,*
*пры камінку з цяпельцам,*
*у крэсле одумна*
*ды з кніжкаю разумнай на каленях.*
*І ад мяне*
*пачуць хацеў*
*пра тое ж.*
*я легкаважна з ім пажартавала*
*ды, буську спешна цмокнуўшы,*
*пабегла,*
*бо й смешна ж, –*
*праўда? –*
*гаварыць*
*пра атачэнне музаў*
*ля пліты варыўнай*
*ці ў сужэнскім ложку.*

## ■ «ДЗЕЯСЛОЎ» РАІЦЬ




**Марыя Роўда. Клінічны выпадак, альбо Дарэмныя ўцёкі. – Мінск: Кнігазбор, 2015. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 71). – 312 с.**

У кнігу ўвайшлі тры аповесці і амаль два дзясяткі апавяданняў. Героі твораў пісьменніцы – гэта моладзь дзевяностых, якая шукае сябе, сапраўднае каханне і свае карані на разломе часу, калі здаецца, што паўстае цалкам новая краіна. З самаіроніяй, сумам і любоўю аўтарка распавядае пра сваё пакаленне і пра будучыню, якую маладзёны чакалі, але не атрымалі, і якую асэнсоўвалі ўжо ў новую эпоху.

«Марыя Роўда апісвае непадробныя пакуты душы, якая жадае немагчымага; прычым недасяжнай мару – быць шчаслівым з каханым чалавекам – робіць сам герой. Пісьменніца не паведамляе чытачу пра пакуты героя, але сапраўды стварае іх – вы ўсё адчуеце на ўласнай скуры», – піша крытык Наста Грышчук.

Гэтая дэбютная кніга Марыі Роўды сталася доўгачаканай – і для аўтаркі, і для беларускага чытача. Марыя – лінгвіст, скончыла факультэт ангельскай мовы Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта, працуе дацэнтам на кафедры гісторыі і граматыкі ангельскай мовы таго ж універсітэта. Перакладала на беларускую мову англамоўную прозу, драматургію і дзіцячыя мультфільмы. Публікуецца з 1993 года.




**Гарбузік. Цуды свету: літаратурна-забаўляльны дзіцячы альманах. – Мінск: Кнігазбор, 2016. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка». Падсерыя «Каляровы ровар»). – 30 с.**

Пабачыў свет другі выпуск дзіцячага альманаха «Гарбузік». Першы выпуск альманаха выйшаў летась і стаўся папулярным, сярод іншага, дзякуючы кардоннаму замку, які можна было склеіць уласнаручна. Сёлета «фішкай» нумару сталася гульня-«хадзілка», гэтак распаўсюджаная сёння ў дзіцячых часопісах і, аднак, не дужа папулярная ў беларускіх выданнях для дзяцей. Тэма «хадзілкі», намаляванай Дзмітрыем Шылам, адпавядае агульнай задуме выпуску – «цудам свету». Але рэдакцыя альманаха на агульнавядомых спісах цудаў не спынілася: ёсць жа і ў Беларусі свае дзівосы!

Хіба Крыж Еўфрасінні Полацкай для беларусаў менш важны за піраміду Хеопса? Гэткімі ж цікавымі для чытачоў тэмамі ёсць, напрыклад, звяры і птушкі, міфалагічныя істоты. Яны ж для ўсяго свету агульныя: дзе ёсць дамавік, там знойдзецца месца і для гномаў з іх застольнай песняй аўтарства Джона Толкіна (і ў перакладзе Андрэя Хадановіча). Дзе маюцца Асілкі і Жар-птушкі, там з'явіцца і зусім нястрашная Лахнэска.

Як гэта й павялося, альманах выйшаў разнапланавы паводле жанраў, рубрык, характару афармлення. Для выпуску было задзейнічана некалькі дзясяткаў творцаў, у тым ліку і малых чытачоў і чытачак з іх уласнымі літаратурнымі творамі і малюнкамі.

## ■ КАНТАКТЫ

Пададзеныя ў бюлетэні кнігі
Вы можаце замовіць непасрэдна ў выдаўцоў
па наступных кантактах:

Кніжныя серыі:
**«Бібліятэчка «Дзеяслова»,**
**«Кнігарня пісьменніка»,**
**«Бібліятэка «Бацькаўшчыны»,**
e-mail: knihanosza@gmail.com,
тэл.: +375 17 200 70 27

**«Гарадзенская бібліятэка»,**
e-mail: dzmuchavec@gmail.com,
тэл.: +375 29 133 87 17

**ІП «Логвінаў»,**
e-mail: lohvinaupress@gmail.com,
тэл.: +375 29 667 47 57

**ПУП «Кнігазбор»,**
e-mail: bkniha@tut.by,
тэл.: +375 29 772 19 14

**ІП «Уладзімір Сіўчыкаў»,**
e-mail: siuchykau@gmail.com,
тэл.: +375 44 561 05 28

**СТАА «Медысонт»,**
e-mail: medisont@gmail.com,
тэл.: +375 29 623 74 10

**Выдавецтва «Галіяфы»,**
e-mail: vish@bk.ru,
тэл.: +375 29 678 68 06

**Выдавецтва «Лімарыус»,**
e-mail: limarius@yandex.ru,
тэл.: +375 29 679 33 36

**ІП «Зміцер Колас»,**
e-mail: zkolas@gmail.com,
тэл.: +375 29 623 35 65



ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ
Кніга наша
№ 40
кастрычнік, 2016
ЗАСНАВАЛЬНІКІ: ГА"САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ", МГА"ЗБС"БАЦЬКАЎШЧЫНА"

**Інфармацыйны бюлетэнь МГА «ЗБС «Бацькаўшчына» і ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў».**
Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Наклад 299 асобнікаў. № 40 26.10.2016.
Адказны за нумар – Алесь Сачанка.
Адрас рэдакцыі: г. Мінск, вул. Кузьмы Чорнага, 31-906, 220012, тэл./факс: (+375 17) 200 70 27.
E-mail: knihanosza@gmail.com